# ТЭЛЕПРАГРАМА НА ТЫДЗЕНЬ

**№155 (1968)**
Субота, 21 жніўня 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля».

Кошт свабодны.

# Народная Воля

E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

***Надвор'е***

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +22...+24, дождж, уначы — +14...+16, без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +21...+23, уначы — +15...+17, на працягу сутак — без ападкаў; у Гродне ўдзень — +22...+24, уначы — +16...+18, на працягу сутак — без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +23...+25, уначы — +17...+19, на працягу сутак — навальніца; у Гомелі ўдзень — +29...+31, сонечна, уначы — +19...+21, без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +28...+30, без ападкаў, уначы — +18...+20, навальніца.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## Выхад «Новой газеты Сморгони» прыпынены

На тры месяцы прыпынены выхад недзяржаўнага выдання "Новая газета Сморгони". Загад аб гэтым днямі падпісаў міністр інфармацыі Уладзімір Русакевіч.

Згодна з загадам, выдавец газеты прадпрымальнік Рамуальд Улан абвінавачваецца ў парушэнні артыкулаў 10 і 20 Закона "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі".

Як паведаміў БелаПАН сам Р.Улан, ён даведаўся пра з'яўленне загаду 19 жніўня. Асноўныя прэтэнзіі да яго заключаюцца ў тым, што прадпрымальнік не з'яўляецца юрыдычнай асобай, хаця раней такім з'яўляўся, і таму газету выдаваць не можа. Паводле слоў Р.Улана, гэта няправільна, бо ён заўсёды выдаваў газету будучы індывідуальным прадпрымальнікам.

"Гэта чыста палітычны крок, — лічыць выдавец. — Ён накіраваны на тое, каб выключыць газету з інфармацыйнай прасторы перад парламенцкімі выбарамі". Р.Улан таксама нагадаў, што год таму падчас выбараў у мясцовыя саветы дэпутатаў, у "Новой газеты Сморгони" таксама ўзнікалі праблемы з уладамі.

## Актывіст АГП знік з-пад адміністрацыйнага арышту

Актывіст Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) Аляксей Прыходзька, тэрмін знаходжання якога ў спецпрыёмніку-размеркавальніку ў Мінску на вуліцы Акрэсціна мусіў завяршыцца 18 жніўня, знік, не адбыўшы да заканчэння арышту трое сутак.

Аляксей Прыходзька быў арыштаваны за ўдзел у несанкцыянаванай акцыі 3 жніўня. У той дзень ён і яшчэ дзве актывісткі Салігорскай гарадской арганізацыі АГП — Таццяна Ларыёнава і Наталля Зубарэвіч — прыехалі ў Мінск. На Кастрычніцкай плошчы сталіцы яны разгарнулі антыпрэзідэнцкі плакат і пачалі раздаваць улёткі, але неўзабаве іх затрымалі супрацоўнікі міліцыі.

За арганізацыю несанкцыянаванага пікета А.Прыходзька быў асуджаны на 15 сутак адміністрацыйнага арышту, Н.Зубарэвіч — на 10, а Т.Ларыёнаву аштрафавалі на 30 базавых велічынь.

Як паведаміла БелаПАН супрацоўніца прэс-службы АГП Кацярына Ткачэнка, калі тэрмін знаходжання А.Прыходзькі падыходзіў да канца, яго з падазрэннем на апендыцыт даставілі ў Мінскую абласную клінічную бальніцу ў Бараўлянах. Менавіта адтуль пікетчык і знік.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

## Фралоў стаў сацыял-дэмакратам

Адзін з лідэраў групы "Рэспубліка" Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі дэпутат Валерый Фралоў стаў членам Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада).

Заява парламентарыя аб уступленні ў шэрагі БСДП (НГ) была станоўча разгледжана Мінскай гарадской арганізацыяй партыі. Рэкамендацыю для ўступлення Фралова ў БСДП (НГ) даў асабіста лідэр партыі Мікалай Статкевіч.

"У мяне было шмат прапаноў ад розных палітычных партый уступіць у іх рады, але я выбраў БСДП (НГ), паколькі бачу, што гэта па-сапраўднаму цэнтрысцкая партыя", — растлумачыў сваё рашэнне ў інтэрв'ю БелаПАН В.Фралоў.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## А.Сіманаў: «У наступленні на свабоду слова беларуская сітуацыя апярэджвае расійскую на два-тры гады»

І ў Беларусі, і ў Расіі катастрафічна звужаецца прастора свабоды слова, ідзе планамерны наступ на незалежную прэсу. Так лічыць вядомы расійскі грамадскі дзеяч, прэзідэнт Фонду абароны галоснасці Аляксей Сіманаў.

"У гэтым сэнсе розніца толькі ў тым, што беларуская сітуацыя апярэджвае расійскую на два-тры гады, — заявіў А.Сіманаў у інтэрв'ю БелаПАН 17 жніўня ў Маскве. — І наогул, мы рухаемся ад плюралізму думак да уніфікацыі, навязвання аднаго, дзяржаўнага, пункту гледжання".

Спецыфіка расійскай сітуацыі, на думку суразмоўцы, толькі ў тым, што там улады "ўмеюць пралічваць і пакідаюць у рэзервацыі нейкую мінімальную колькасць СМІ, якім дазваляецца больш, чым іншым". Як лічыць А.Сіманаў, гэта трэба хаця б для таго, каб канчаткова не згубіць рэшткі цывілізаванага іміджу ў вачах Захаду.

А.Сіманаў прызнаў, што цяпер у расійскіх СМІ цікавасць да Беларусі невялікая. "Адчуванне, што Беларусь — адрэзаная луста, прывяло да таго, што ў нас стала значна менш назіральнікаў, якіх цікавяць беларускія праблемы, — сказаў А.Сіманаў. — Сёння беларуская праблематыка выклікае цікавасць у асноўным у спецыялістаў".

**Аляксандр КЛАСКОЎСКІ.**

## У Брэсце перакулілася машына «хуткай дапамогі» з медыкамі і пацыентам

У Брэсце ў выніку дарожна-транспартнага здарэння 19 жніўня перакулілася машына "хуткай дапамогі" з медыкамі і пацыентам.

Як паведаміў кіраўнік прэс-службы УУС Брэсцкага аблвыканкама Віктар Васілеўскі, аўтамабіль рухаўся па вуліцы Маскоўскай і, выехаўшы на раздзяляльны газон насупраць магазіна "Легенда", перакуліўся. Пацыент 1939 года нараджэння і фельчар дастаўлены з траўмамі ў бальніцу, дзяжурнаму ўрачу была аказана дапамога на месцы. Вадзіцель, які не справіўся з кіраваннем, з месца аварыі знік, але вечарам яго знайшлі па месцы жыхарства.

"Не выключана, што ў ДТЗ вінаваты і іншы аўтамабіль. Каб не ўрэзацца ў яго, "хуткай" давялося выехаць на раздзяляльны газон. Але гэта толькі адна з версій. Сам вадзіцель машыны "хуткай дапамогі" працуе там вось ужо 9 гадоў і лічыцца прафесіяналам", — сказаў В.Васілеўскі.

Зараз кампетэнтныя органы высвятляюць абставіны здарэння.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

**АЛІМПІЯДА-2004**

# Расфарбавалі машыну Алімпійскага чэмпіёна...

*Гэта можа прагучаць нясціпла, але да свайго алімпійскага медаля гомельскі дзюдаіст Ігар Макараў быў гатовы. Пра гэта распавёў журналісту "Народнай волі" генеральны сакратар федэрацыі дзюдо* **Сяргей Сахадзе***:*

— Нельга сказаць, што Ігар самаўпэўнены спартсмен. Проста, як і любы спартсмен, Ігар паспартыўнаму злы. Ад'язджаючы на Алімпіяду, Ігар сказаў: "Спадзяюся, мне пашчасціць, але можа пашчасціць некаму іншаму". Вы бачылі, як гэта было! Макараў выйграў пяць схватак у мацнейшых спартсменаў.

Дзюдо Ігар займаецца з самага дзяцінства. Яго бацькі родам з Расіі, пераехалі ў Гомель, калі Ігару было пяць гадоў. Макараў — выхаванец гомельскай школы дзюдо. Да Алімпійскага медаля ён ішоў паступова. Дарэчы, многія дзюдаісты прабіваліся ў вялікі спорт праз студэнцкія турніры — універсіяды. Яшчэ раз паўтаруся, Ігар паступова ішоў да Алімпійскага медаля. І ён яго заслужыў.

**— Да таго ж кватэру і ордэн атрымаў.**

— Ой, з кватэрай цэлая гісторыя. Справа ў тым, што ў Гомелі ў Макарава не было ўласнага жылля. Ігар здымаў кватэру. Зараз гэтая праблема адпадзе.

Між іншым, у адсутнасць Макарава ў Беларусі супрацоўнікі беларускай федэрацыі дзюдо крыху "паваражылі" над асабістай машынай алімпійскага чэмпіёна. Зараз, на заднім шкле аўтамабіля з'явіўся надпіс: *"Ігар Макараў — алімпійскі чэмпіён-2004"*. Як жартуе Сяргей Сахадзе, ДАІшнікі радзей спыняць будуць, а калі і будуць, то толькі дзеля аўтографа. *"Да таго ж і "ліхачы" абганяць не будуць, усё ж такі Алімпійскі чэмпіён па дзюдо"*, — смяецца Сяргей Сахадзе.

***Даведка "Народнай волі":*** *Ігар Макараў. Нарадзіўся 20 ліпеня 1979 года. Майстар спорту міжнароднага класа. Бронзавы прызёр чэмпіянату свету-2003 года, бронзавы прызёр чемпіянатаў Еўропы 2002 і 2003 гадоў. Алімпійскі чэмпіён Афін-2004 у вагавай катэгорыі 100 кілаграмаў.*

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

**З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ**

***Мікола СТАТКЕВІЧ,***
***старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада):***

# «Я быў шакіраваны...»

*Трыццаць працэнтаў вылучэнцаў ад сацыял-дэмакратаў займелі праблемы на першым этапе перадвыбарнай кампаніі*

— Відавочна тое, што выбары не будуць справядлівымі, — кажа Статкевіч. — Ад нашай партыі ў якасці прадстаўнікоў у акруговыя камісіі было накіравана 80 чалавек, уключылі толькі дваіх. Акрамя таго, з 50 створаных ініцыятыўных груп 15 атрымалі адмову ў рэгістрацыі. Падставай для гэтага было часцей за ўсё тое, што "неўзабаве" некаторыя члены ініцыятыўных груп адмовіліся ад намеру ўдзельнічаць у кампаніі... На ініцыятыўныя групы ідзе страшэнны ціск. Людзям пагражаюць, вымушаюць падпісваць паперы аб тым, што яны не давалі згоду на ўдзел у гэтых групах. У нас ёсць звесткі (нашы паплечнікі гатовы засведчыць гэта пісьмова), што адбываюцца "рэйды" па хатах, з міліцыяй, праводзяцца "прафілактычныя гутаркі"... Людзям пагражаюць звольніць з працы, а моладзі — выключыць з навучальнай установы. Я быў проста шакіраваны тым, якое ідзе запалохванне людзей.

Большасць нашых сябраў, чые ініцыятыўныя групы не былі зарэгістраваныя, будуць вылучацца кандыдатамі ў дэпутаты ад партыі.

**— А ці маглі б Вы прывесці канкрэтныя прыклады ціску?**

— Іх шмат. Вялікі ціск на членаў ініцыятыўных груп у Пастаўскай акрузе — пагражаюць звальненнем з працы. Члены выбарчай камісіі Магілёўскай-Кастрычніцкай акругі № 73 прыязджалі да маладых людзей дахаты, "ставілі на вушы" іх бацькоў... Падобнае адбылося і ў Магілёўскай-Ленінскай акрузе № 71: пенсіянерку, члена ініцыятыўнай групы, "угаварылі" адмовіцца ад сваіх намераў. У Крычаўскай выбарчай акрузе праз працу націснулі адразу на восем чалавек. І такое паўсюдна...

**— Калі для Вас настолькі ўсё відавочна, ці ёсць сэнс браць удзел у такіх выбарах? Некаторыя палітыкі наогул заклікаюць да байкоту...**

— Браць удзел у выбарах трэба заўсёды. Няўдзел у выбарах — непавага да выбаршчыкаў. А шкоду ад байкоту цяжка пераацаніць. Вы зразумейце, людзям трэба прапанаваць альтэрнатыву. Няўдзелам у выбарах мы скрадаем у іх гэтую альтэрнатыву. Многія суграмадзяне "ведаюць" пра апазіцыю з карцінак БТ, дзяржаўных радыё і прэсы. А калі мы, у прыватнасці, наша партыя, прыходзім да выбаршчыкаў у кватэру, размаўляем... Яны бачаць, што перад імі цалкам нармальныя, інтэлігентныя, прыстойныя людзі, — іх уяўленне мяняецца. Таму асабісты кантакт вельмі важны. Нават калі нашы прадстаўнікі і не трапяць у парламент, эфект размоў з людзьмі нікуды не дзенецца, гэты капітал будзе накопліваца на будучыню, памнажаць нашу моц. Просты прыклад: пасля апошняй парламенцкай гонкі дзякуючы працы з выбаршчыкамі колькасць сяброў нашай партыі павялічылася ўдвая.

Яшчэ раз падкрэслю — байкот выбараў аслабляе апазіцыю.

**— А што, "працу з масамі" абавязкова прымяркоўваць толькі да выбараў?**

— Ведаеце, ёсць такое паняцце, як асабістая матывацыя. І дзеянні чалавека, які кіруецца асабістай матывацыяй, нашмат эфектыўней, чым у звычайнай сітуацыі. Да таго ж падчас перадвыбарнай гонкі прасцей прыцягнуць і чалавечыя, і іншыя рэсурсы. Ёсць попыт на інфармацыю.

Што датычыцца вулічных акцый, то за некалькі месяцаў да выбараў мы свядома адмовіліся ад несанкцыянаваных мерапрыемстваў.

**— Што для Вас будзе сапраўднай перамогай у гэтай гонцы — месцы ў парламенце альбо эфект ад працы з выбаршчыкамі?**

— Вельмі важна, што змены ў грамадстве адбываюцца, што людзі паварочваюцца да нас. Перамогай буду лічыць колькасць адданых (сапраўды адданых, а не фармальна падлічаных) за мяне галасоў. А яшчэ я вельмі спадзяюся, што нехта здолее "прарвацца".

**Вольга КЛАСКОЎСКАЯ.**
**Фота photo.bymedia.net**

**ПОЗИЦИЯ**

# Референдум будет в октябре, или его не будет вовсе

Позвонил Валерий Карбалевич. Один из лучших политических аналитиков в Минске, и предложил поучаствовать в дискуссии на Радио Свобода. Он поставил четыре вопроса.

Есть ли у оппозиции стратегия и тактика на ближайшую избирательную кампанию?

Можно ли будет считать эту кампанию успешной, если ни один демократический кандидат не пройдет в парламент?

Не лучше ли в сложившейся ситуации поддержать бойкот выборов, который пропагандирует КХП-БНФ?

Как повлияет на цели и методы избирательной кампании возможный референдум по продлению полномочий А.Лукашенко?

Эти вопросы показались мне точными и своевременными, чтобы поискать на них ответы не только на волнах Радио Свобода.

Очевидно, что планы на избирательную кампанию — только тактика. Стратегией было решение идти на выборы вместе. Народной коалицией **"5+"**. Это главный момент. Вместе мы выдвинем более двухсот кандидатов в депутаты. А если учесть представителей более мелких демократических объединений, то еще больше. Поэтому выборы в Палату представителей Национального собрания — только часть долговременного плана. Его действие простирается далее 2006 года и президентской кампании, поскольку Народная коалиция поставила три задачи:

— защиту суверенитета страны;

— построение правового государства, где закон один для всех;

— подъем благосостояния народа.

Их невозможно решить, даже завоевав парламентское большинство. Ибо возможности Палаты представителей ограничены действующей Конституцией. Необходима победа на президентских выборах, которую подготовит успешная парламентская кампания.

Но и в том случае, если ни один демократический кандидат не преодолеет "административный ресурс", определенные цели будут достигнуты. Прежде всего будет прорвана информационная блокада. Это не только легально распространяемые листовки. Это и теле- и радиовыступления. Несколько сот выступлений. Народ узнает про объединенную оппозицию и ее планы. Увидит и услышит ее участников. Такой прорыв не сравним со скромными возможностями негосударственных СМИ.

Во-вторых, оппозиция проведет "разведку боем", чтобы выяснить сильные и слабые стороны и свои, и режима. В частности, свои способности организовать осмысленную и доходчивую агитационную кампанию.

В-третьих, кто-то сумеет сделать весомую заявку на лидерство в объединенной оппозиции. Прекратятся разговоры о "клубах претендентов в президенты". Ибо лидеры рождаются в борьбе, а не за чашкой чая.

Наконец, какие-то стуктуры маргинализуются. Прежде всего эта опасность нависла над КХП-БНФ. На старом капитале долго не проживешь. Политические рантье неэффективны и неспособны к конкуренции. Они тихо, но неумолимо сходят с политической сцены. Эта же опасность угрожает и тем, кто не умеет или не хочет работать в команде. Кто любыми средствами стремится выделиться. Даже во вред заявленным целям. Избирательная кампания станет тем оселком, на котором будет проверяться истинная ценность каждой структуры.

Бойкот — обоюдоострое оружие. В своем большинстве эту тактику участия в выборах оппозиция опробовала на местных выборах 1999 года и парламентских 2000 года. Решение о бойкоте принимал Конгресс демократических сил. Его решения не выполнила БСДП(НГ), а ПКБ и вовсе не принимала в нем участия. Основания для бойкота тогда были чрезвычайно серьезные. Участие оппозиции в первых же выборах после государственного переворота 1996 года и разгона законного Верховного Совета 13-го созыва автоматически делало легитимной власть узурпатора, что было крайне опасно. Если учесть угрозу заключения неравноправных договоров с Российской Федерацией и даже потери независимости. Успешный бойкот в тех условиях делал все соглашения, подписанные Палатой представителей, юридически ничтожными. И оппозиция добилась этой цели.

Сейчас повторно доказывать, что режим нелегитимен, нет смысла. Да и угроза инкорпорации почти исчезла. А добровольная самоизоляция оппозиции в результате очередного бойкота становится смертельно опасной. Необходимо идти к людям и искать шансы победить. Ситуация изменилась в нашу пользу.

Референдум, к сожалению, весьма вероятен. Откладывать его А.Лукашенко вряд ли станет. Поэтому он выступает, встречается, играет в хоккей, не давая себе ни минуты отдыха и не сходя с экранов телевизоров. Объявит референдум он, скорее всего, в последний момент. Тем более необходимо иметь законные основания вести в это время массовую кампанию. Участие в выборах дает такую возможность. Кандидаты в депутаты от Народной коалиции **"5+"** обязательно будут агитировать против продления полномочий Александра Григорьевича в любом виде. Это упростит ситуацию для людей, поскольку сделает очевидной разницу между сторонниками Лукашенко и сторонниками перемен. Одновременно это затруднит задачу избирательных комиссий, поскольку они будут вынуждены "гнаться за двумя зайцами".

Александр Григорьевич ощущает определенную неуверенность. Впервые ему угрожают не личность и не партия. Ему угрожает угрюмое молчание большинства народа. В такой ситуации его нельзя оставлять один на один с электоратом. Долг оппозиции встать между этими участниками исторической драмы и помочь народу сделать правильный выбор.

Это еще один довод в пользу участия в избирательной кампании 2004 года.

**Юрий ХОДЫКО,**
**профессор,**
**заместитель председателя Партии БНФ.**

**ВЫБОРЫ**

# Анатолий Лебедько готовится к суду

*На этот раз лидер Объединенной гражданской партии, а также руководители ряда политических партий намерены направить иск в Верховный суд о нарушениях избирательного законодательства, допущенных при формировании окружных избирательных комиссий.*

В соответствии с законодательством, представителей в окружные избирательные комиссии могут выдвигать трудовые коллективы, политические партии, граждане и общественные объединения.

*"Однако, —* говорит **Анатолий Лебедько**, *— когда мы проанализировали официальную статистику, кто же попал в окружные избирательные комиссии, а значит, получил право организовывать проведение выборов на местах и осуществлять контроль за их проведением, то пришли к выводу, что права политических партий грубо нарушены.*

*Представители Центризбиркома неоднократно заявляли, что все субъекты имеют примерное равенство. А из Конституции вытекает, что политические партии имеют определенный приоритет. А получилось наоборот.*

*Например, в Могилевской области в окружные комиссии не попал ни один представитель политических партий. Я не делю их даже на оппозиционные и лояльные к режиму. Членами окружных комиссий на Могилевщине стали выдвиженцы от трудовых коллективов, общественных организаций и от граждан. Причем анализ показывает, что граждане почему-то выдвигали не кого-нибудь, а представителей местных администраций или госучреждений, которые контролируются властью".*

Ответчиками по иску, по словам Лебедько, должны стать те, кто занимался формированием окружных избирательных комиссий. А это представители исполнительной власти, президиумы областных и Минского городского советов, а также исполкомы. При этом лидер ОГП заявляет, что не верит в положительный исход этого дела.

*"Иллюзий мы не питаем, —* говорит он, *— и не надеемся на то, что Верховный суд удовлетворит наш иск. Мы прекрасно понимаем, что он находится в полном подчинении у исполнительной власти. Но для нас важно не дать Центральной избирательной комиссии спекулировать, что у нас все замечательно, и зафиксировать грубейшие нарушения, допущенные уже в ходе начатой избирательной кампании".*

**Мария ЭЙСМОНТ.**

**ЖНІВО**

# Аб чым маўчаць «прапагандысцкія салаўі»

Ход жніва — любімая тэма афіцыйных прапагандыстаў. Яны з радасцю расказваюць аб рэкордных намалотах і ўсхваляюць уладныя структуры за вырашчаны ўраджай і арганізацыю зладжанай працы па яго ўборцы. Словам, усё выдатна ў нашай Беларусі, за што вялікі дзякуй уладзе.

Ураджай сёлета і сапраўды добры. Даныя на ўчарашні дзень сведчаць, што намалочана ўжо каля 5,5 мільёна тон збожжа. Скошана збожжавых і зернебабовых болей 75 працэнтаў. Ураджайнасць складае 33 цэнтнеры з гектара. Словам, і ўраджай ўмалотны, і надвор'е пакуль спрыяе ўборцы. Як тут не парадавацца!

Ды вось у гэтай выдатнай атмасферы, нібы гром сярод яснага неба, прагучала даручэнне Аляксандра Лукашэнкі старшыні Камітэта дзяржаўнага кантролю Анатолю Тозіку і міністру статыстыкі Уладзіміру Зіноўскаму правесці выбарачныя праверкі гаспадарак на прадмет аб'ектыўнасці даных аб ходзе ўборкі. Пры гэтым Аляксандр Рыгоравіч сказаў: *"Надо так, чтобы нам очки не втирали, и мы видели реальную картину. Поэтому давайте проверим. Выборочно, не надо всю страну "накрывать"*.

Чым жа выклікана такое рашэнне Аляксандра Лукашэнкі? Магчыма, ён пазнаёміўся з данымі некаторых праверак. У прыватнасці, Дзяржаўная хлебная інспекцыя прааналізавала якасць першых партый зерня новага ўраджаю, якое паступіла на прадпрыемствы хлебапрадуктаў. Высветлілася, што многае з яго паступае ў асноўным вільготным. А сырое ж збожжа важыць намнога болей, чым сухое. Вядома, што спрактыкаваныя прадаўцы перад пачаткам работы добра змочваюць бульбу, гуркі... Яны і чыстымі выглядаюць, і маюць добрую вагу. Дык колькі заважаць сённяшнія намалоты пасля сушкі зерня?

Прычына гэтага ў тым, што ў гаспадарках кепска вядзецца патрэбная апрацоўка збожжа. У іх не хапае зернесушылак і паліва. Бывае, паступае зерне з засмечанасцю вышэй нормы. Прадпрыемствамі хлебапрадуктаў Гомельшчыны вернуты назад у гаспадаркі 12 аўтамашын з зернем. Яно ўтрымлівала небяспечныя прымесі і хлебных шкоднікаў, мела соладавы пах. 38 працэнтаў прынятай нарыхтоўшчыкамі пшаніцы мае трэці клас якасці, 35 працэнтаў — чацвёрты, што таксама не можа радаваць.

Так што не ўсё так выдатна, як спяваюць напярэдадні выбараў "прапагандысцкія салаўі". Між тым асвятленне і негатыўных з'яў па ўборцы — справа карысная і важная. Прыцягненне ўвагі да іх — зарука, што яны будуць аператыўна ліквідаваны.

**Алесь ДРАБЧУК.**

**ЗАКУЛІССЕ**

# Дзве ноты і пісьмо віцэ-прэм'ера

**або Што папярэднічала рашэнню Брэсцкага абласнога суда па справе фірмы «ІНКО-ФУД»**

Мы атрымалі паведамленне прэс-сакратара Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Польшча спадара Багуслава Маеўскага, у якім расказваецца аб намаганнях дыпламатаў і прадстаўнікоў урада суседняй краіны па "сумленнаму, згоднаму з правам разгляду абвінавачванняў, прад'ўляемых беларускімі ўладамі" фірмы "ІНКО-ФУД". Прапаноўваем гэтае паведамленне нашым чытачам.

*"16 жніўня 2004 г. Брэсцкі абласны суд адмяніў рашэнне суда Ленінскага раёна г.Брэста ад 6 жніўня 2004 г. аб арышце складзіраванай сыравіны (свінога мяса) фірмы "ІНКО-ФУД" вартасцю каля 2 млн. долараў ЗША. Суд пастанавіў скончыць працэс па справе, а канфіскаваны тавар вярнуць фірме "ІНКО-ФУД".*

*Сваё рашэнне суд абгрунтаваў тым, што тавар, які з'яўляецца прадметам судовага разбору, не пакідаў тэрыторыю Свабоднай эканамічнай зоны Брэст (СЭЗ), што супадае з тэрыторыяй свабоднай мытнай зоны, нягледзячы на тое, што гэты тавар захоўваўся ў халадзільніках фірмы, якая знаходзіцца на тэрыторыі СЭЗ, але не з'яўляецца рэзідэнтам зоны, што адпавядае мытнаму заканадаўству.*

*Польскае Міністэрства замежных спраў у дзвюх нотах (ад 06.08 і 11.08.2004 г.), адрасаваных Міністэрству замежных спраў Рэспублікі Беларусь, паслядоўна дамагалася сумленнага, згоднага з правам разгляду абвінавачванняў, прад'ўленых беларускімі ўладамі гэтай фірме. Пасольства РП у Мінску перадало пісьмо ад спадара Ежы Хаўснера, віцэ-прэм'ера, міністра эканомікі і працы, да спадара Андрэя Кабякова, намесніка прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь. У сваім пісьме віцэ-прэм'ер выказаў глыбокую занепакоенасць той сітуацыяй, якая склалася, а таксама папрасіў прыкласці ўсе магчымыя намаганні, каб праблема з фірмай "ІНКО-ФУД" была вырашана.*

*Справа фірмы "ІНКО-ФУД" стала таксама тэмай для шэрагу размоў, праведзеных польскім МЗС з кіраўніцтвам пасольства Рэспублікі Беларусь у Польшчы і пасольствам РП у Мінску з прадстаўнікамі беларускага МЗС. Спадар Сергіуш Наяр, намеснік міністра замежных спраў, правёў таксама размову з першым намеснікам міністра замежных спраў Беларусі спадаром Васілём Пугачовым. Спадар Наяр заклікаў беларускія ўлады заняць канструктыўную пазіцыю і падкрэсліў зацікаўленасць польскага боку ў хуткім вырашэнні спрэчкі.*

*Рашэнне беларускага боку па справе "ІНКО-ФУД" мае істотнае значэнне для далейшага развіцця добрасуседскіх кантактаў. Мы перакананы, што з дапамогай беларускіх улад удасца скараціць да мінімуму страты, якія пацярпела фірма "ІНКО-ФУД".*

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**

ПУЛЬС

## Жадаюць узяць шлюб па-беларуску

Юнэля Сальнікава і Віталь Крупенька з Гомеля дамагаюцца, каб абрад іх шлюбу ў аддзеле запісу актаў грамадзянскага стану Савецкага раёна Гомеля праходзіў на беларускай мове.

У інтэрв'ю БелаПАН Ю.Сальнікава, якая нядаўна скончыла аспірантуру Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Францішка Скарыны і абараніла кандыдацкую дысертацыю, прысвечаную сучаснай беларускай прозе, паведаміла, што 10 жніўня яна і яе жаніх — студэнт IV курса фізічнага факультэта ГДУ Віталь Крупенька падалі заяву аб рэгістрацыі шлюбу ў аддзел загс Савецкага раёна Гомеля. "Паколькі мы пастаянна гаворым па-беларуску, то, зразумела, прапанавалі загадчыцы загса зарэгістраваць нас па-беларуску. Аднак яна адказала, што ў аддзеле нават не захаваўся беларускамоўны тэкст працэдуры рэгістрацыі шлюбу, бо яшчэ прыкладна дзесяць гадоў таму маладыя пары выбіралі рускамоўны варыянт цырымоніі шлюбу. Нашу прапанову аб аднаўленні беларускамоўнай працэдуры загадчыца загса адхіліла, заявіўшы, што гэта магчыма было б зрабіць хаця б для некалькіх дзесяткаў маладых пар, але не для адзінай.

Каментуючы для БелаПАН гэтую сітуацыю, старшыня грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" Алег Трусаў заявіў аб сваёй падтрымцы маладой пары і параіў ім звярнуцца да пракурора Гомеля і да старшыні гарвыканкама.

**Марат ГАРАВЫ.**

## У Ганцавічах адкрыецца прытулак для дзяцей з нешчаслівых сем'яў

1 верасня ў Ганцавічах (Брэсцкая вобласць) будзе адкрыты сацыяльны прытулак для дзяцей з нешчаслівых сям'яў рэгіёну.

Як паведаміла БелаПАН вядучы спецыяліст па пытаннях аховы дзяцінства аддзела адукацыі Ганцавіцкага райвыканкама Вольга Антановіч, прытулак, разлічаны на 14 месцаў, арганізаваны на базе ўжо існуючага ў горадзе сацыяльна-педагагічнага цэнтра дапамогі сям'і і дзецям і размешчаны ў будынку аднаго з дзіцячых садкоў. У апошнія гады ў сувязі са складанай дэмаграфічнай сітуацыяй у рэгіёне ў гэты дзіцячы садок з цяжкасцю набіраліся групы, у той час як дзяцей з нешчаслівых сям'яў у раёне станавілася ўсё больш. Так, калі за ўвесь мінулы год у судзе было разгледжана 14 спраў аб пазбаўленні бацькоўскіх правоў, то толькі за сем месяцаў бягучага — ужо 11.

## Грыбочкі з радыяцыяй

Лясныя дары ў Лунінецкім раёне Брэсцкай вобласці па-ранейшаму тояць у сабе радыеактыўную небяспеку. Як паведаміў БелаПАН загадчык дзеючай пры Лунінецкім лясгасе лабараторыі радыяцыйнага кантролю Іван Васілеўскі, пра гэта сведчаць вынікі аналізаў проб лясных ягад.

Так, напрыклад, летась былі ўзяты на аналіз 383 пробы ягад. З іх у больш чым 60 працэнтах назіралася перавышэнне дапушчальных норм. "Высокая доза радыяцыі адзначалася па выніках праведзеных даследаванняў таксама ў грыбах, — сказаў І.Васілеўскі. — І сёлета праводзімыя аналізы ў многіх выпадках несуцяшальныя, асабліва ў тых ягадах і грыбах, якія сабраны ў Краснавольскім, Вулькаўскім, Сітніцкім і Мікашэвіцкім лясніцтвах".

Жыхарам Лунінецкага раёна рэкамендуецца не збіраць дары лесу ў першую чаргу ў гэтых лясніцтвах. Акрамя таго, спецыялісты падкрэсліваюць: усім, хто ўсё ж адважыўся на збор ягад або грыбоў у пацярпелых ад чарнобыльскай катастрофы рэгіёнах, неабходна абавязкова правяраць начынне сваіх кошыкаў у лабараторыях радыяцыйнага кантролю. Бо "брудныя" грыбы і ягады ў Брэсцкай вобласці рэгулярна адзначаюцца не толькі ў Лунінецкім, але і ў Столінскім, Пінскім, Драгічынскім раёнах і некаторых іншых месцах.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

БЫВАЕ!

## Маланка — госця страшная!

Цудам засталася жывой пасля навальнічнай жнівеньскай ночы маладая жыхарка вёскі Восава, што паблізу Докшыц, Марыя Шульская.

А вось з яе маёмасцю шаравая маланка, што заляцела тады ў хату Марыі Сцяпанаўны, абышлася жорстка.

Вогненная "госця" момантам знішчыла ўсю мэблю і спаліла электрычную бытавую тэхніку.

Раніцай передавая даярка калгаса імя Суворава ў скрусе глядзела на сляды, пакінутыя згусткам нябеснай энергіі. Перад вачыма былі выбітыя шыбы і дзверы, ушчэнт разламаная шафа, буфет, два тэлевізары, перамалочаны на дробныя кавалкі посуд, пазрываныя са сцен шпалеры, прыўзнята месцамі столь. Аб неверагоднай сіле шаравой маланкі сведчыла тое, што ў ножной швейнай машыны аказаліся зламанымі чыгунныя падпоркі.

Поўнасцю, як на дзіва, ацалела толькі старадаўняя шафа, якую Марыя прывезла сюды з бацькоўскага дома, калі выходзіла замуж. І цяпер гаспадыня пасагавай мэблі, зробленай, магчыма, яшчэ ў пазамінулым стагоддзі, лічыць, што тая шафа "зачараваная".

Пасля разбуральнага візіту ў хату маланка зазірнула і ў хлеў са свіным катухом, дзе ўшчэнт разбіла загародку.

Няшчасныя свінні спужаліся так, што пасля гэтага жудаснага выпадку трое сутак нічога не елі і нават не пілі.

Адно супакойвае крыху Марыю Сцяпанаўну Шульскую: кіраўніцтва сельгаскааператыва паабяцала адрамантаваць усю "сталярку" ў пацярпелай хаце. Марыі таксама паведамілі, што Дзяржстрах кампенсуе ёй асноўныя страты ад стыхійнага бедства.

Паводле рашэння Докшыцкага Савета дэпутатаў, грашовую падтрымку даярцы М.Шульскай акажа і райвыканкам.

І гэта справядліва: не кожную ноч і не да кожнага чалавека залятае такая высокая і бязлітасная "госця".

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

КОМПЕТЕНТНОЕ МНЕНИЕ

# Почему туристы объезжают Беларусь

Туризм... Произнося это слово, многие имеют в виду отдых за границей. А ведь для нашей страны важнее другое — чтобы побольше людей приезжало на отдых к нам. Да и самим чтобы было где провести отпуск или те же выходные.

В принципе, у нас для этого есть все предпосылки. Развитие Беларуси как туристского государства определяется географическим положением, ее постоянно возрастающим транзитным значением между Западом и Востоком, Севером и Югом. Следовательно, нам необходимо направить усилия на обустройство и создание современной инфраструктуры на транзитном участке трасс Брест — Орша — граница России и Витебск — граница Украины.

К сожалению, низкий уровень сервисных услуг, дефицит квалифицированных кадров, неразвитость туристской индустрии привели к тому, что в нашу страну поток туристов с каждым годом уменьшается и, наоборот, значительно увеличивается количество белорусских граждан, выезжающих за рубеж с туристскими целями.

Основными причинами негативных тенденций в развитии туристской отрасли является отсутствие системности в работе по разработке и внедрению современной нормативно-правовой базы регулирования туризма. Необходима системная реструктуризация туристского сектора экономики, создание лояльного законодательства, касающегося туристского бизнеса.

Основным препятствием для реформаторского мировоззрения является ряд ошибочных догм, а именно: мнение, что на рынке определяющую роль играют мелкие предприниматели; мнение о высоком профессионализме белорусского среднего бизнеса; мнение о бедности Беларуси природными ресурсами. В нашей стране их не меньше, нежели в других центральноевропейских государствах.

Созданная в 70—80-е годы туристская инфраструктура физически и морально устарела, в основном не отвечает международным стандартам и не позволяет в полной мере обеспечить постоянно растущие потребности населения и зарубежных гостей в туристских услугах.

В сложившейся ситуации наиболее привлекательным с экономической точки зрения является организация выездного туризма (импорт услуг), что и предопределяет повышенный интерес к туристскому рынку Беларуси со стороны зарубежных туроператоров, который, по сути дела, приобрел форму внешней экспансии.

Прошедшая в апреле в Минске выставка "Отдых" убедительно показала, что Минск превратился в то место, где зарубежные страны успешно продвигают на белорусский рынок свой турпродукт и приобретают все большее количество туристов из Беларуси.

Складывающийся не в пользу Беларуси дисбаланс в торговле туристскими услугами в последние три года приобрел еще более негативную динамику. Так, в прошлом году отрицательное сальдо в торговле туристскими услугами составило 330 млн. долларов США, что обусловлено неэквивалентным туристским обменом с другими странами — 1,5 млн. граждан Беларуси выезжали за рубеж с туристскими целями и только чуть более 60 тыс. иностранных туристов посетили нашу страну. Объемы "теневого" вывоза валютных средств за пределы страны оцениваются экспертами примерно в 450—500 млн. долларов США.

Основной причиной, сдерживающей поступательное развитие туризма в Республике Беларусь, является прежде всего неспособность республиканских органов государственного управления реально сдержать и ограничить господство иностранного капитала на белорусском рынке туристских услуг, отсутствие последовательных действий по созданию прочных позиций на внешних рынках с целью привлечения иностранных туристов и, соответственно, увеличения валютных поступлений от экспорта туристских услуг.

После смены руководства Министерства спорта и туризма в 1999 году не только не обеспечена преемственность в реализации ранее разработанной и закрепленной в законе "О туризме" национальной стратегии развития туризма, но и произошла необоснованная ревизия курса, сопровождающаяся пересмотром ранее принятых нормативно-правовых документов.

Фактологический анализ практической работы в области туризма Минспорта в 2000—2003 гг. показывает, что в своей работе оно в значительной мере попало в зависимость от внешнего влияния.

Допущены грубые ошибки в работе с кадрами. Прежде всего оказалась неспособной к конструктивной работе созданная по принципу личной преданности "кадровая вертикаль" как в управлении туризма Минспорта, так и в составе НТК "Белинтурист".

В результате практическая работа осуществляется либо под "диктовку" частного турбизнеса, либо носит формальный характер. Откровенная бездеятельность прикрывается имитацией работы, что проявилось в создании Национального агентства по туризму, функциональное назначение которого и решаемые задачи так и остались неизвестными, кроме одной — технической — реализовывать туристический ваучер; Национальной программы развития туризма на 2000—2005 гг., которая, несмотря на привлечение к ее разработке Института экономики НАН Беларуси, по своему содержанию может претендовать лишь на то, чтобы стать учебно-методическим пособием. Появление этого документа, который в теоретическом плане не выработал новых идей, в конкретной работе не используется, более того, не дал совершенно никаких положительных результатов в практической деятельности, можно объяснить лишь мотивами субъективного порядка. Около 10 тысяч долларов США потрачено на подготовку Национальной программы. Инициатором ее создания был тогдашний заместитель министра Минспорта, а ныне генеральный директор Национального агентства по туризму Ч.К.Шульга. В силу отсутствия достаточных правовых знаний у Ч.К.Шульги (в настоящее время он исполняет обязанности начальника управления туризма Минспорта) в практике работы Минспорта преобладает формализм. Кого мы пытаемся обманывать? Самих себя? Сколько еще белорусский народ будет содержать нерадивых руководителей?

Безответственность в осуществлении реальных мер государственного регулирования особо проявилась на примере отношения к основному документу — Закону Республики Беларусь "О туризме", реализация которого фактически приостановлена. Принят только один документ — Положение о лицензировании туристской деятельности. О беспринципности его составителей, их элементарной правовой и профессиональной безграмотности говорит тот факт, что лицензии были выданы около 700 субъектам хозяйствования, из них около 600 получили лицензию туроператора, более 500 — турагентов. Для сравнения: в Германии зарегистрировано порядка 20 туроператоров, из которых только 2 являются признанными на федеральном уровне.

В результате бесконтрольности проявились тенденции, характерные для "дикого" рынка. Так, наиболее крупные частные турфирмы зарегистрировались как иностранные предприятия и оформили лицензию туроператора Республики Беларусь (?!).

Подведомственное Минспорта предприятие — Национальный туристический концерн (НТК) "Белинтурист" — от целенаправленной работы в плане выполнения определенной президентом Республики Беларусь задачи по привлечению иностранных туристов и внешних инвестиций в страну отказался и к настоящему времени фактически "переквалифицировался" в турбюро. Основной упор делается на выездные туры. Подобная "деятельность" концерна не только противоречит экономическим интересам государства (трудно найти еще какую-либо страну, в которой государственное предприятие занималось бы вывозом валюты за рубеж), однако до настоящего времени осталась без последствий для разработчиков такой политики, что ничего, кроме издевательской иронии со стороны специалистов в отношении морально-нравственных качеств руководителей НТК и их покровителей не вызывает.

Неспособность руководства Минспорта адекватно реагировать на происходящие изменения и понятным образом сформировать государственную стратегию развития туризма предопределило возникновение откровенно оппозиционной лоббистской структуры из числа наиболее крупных частных турфирм — Союз туристских организаций (СТО), ведущая роль в которой принадлежит туроператорам из числа иностранных предприятий.

Как следствие, все эти факторы не только сдерживают, но и оказывают разрушающее влияние на внутренний туризм — структурообразующую часть всей сферы услуг национальной экономики.

Очевидно, что руководство Минспорта с поставленной президентом и правительством перед спортивным ведомством задачей по регулированию туристской деятельности в стране не справилось. Вообще не понятно, как уживается рыночный туризм с бюджетным спортом. Дальнейшее нахождение туризма в этой министерской структуре "консервирует" эту негативную тенденцию. Наступило время создать вертикально-интегрированную систему управления. Туристское ведомство вполне могло бы работать на самоокупаемости, благо сфера деятельности обширна. Здесь же должна получить широкие возможности по развитию и индустрия развлечений, которая является важной составляющей продукта туризма и отдыха.

Исходя из анализа современных проблем в туризме, как представляется, требуется срочная реализация нескольких взаимосвязанных программ в области организационно-кадровой работы, нормативно-правового регулирования, контроля за финансово-хозяйственной деятельностью туристских фирм независимо от формы собственности.

**P.S.** В декабре минувшего года меня пригласили в Администрацию президента Республики Беларусь и попросили написать свои предложения по развитию туризма. Решил, что туризмом серьезно заинтересовались на верхних этажах власти и изложил все свои предложения по развитию этой сферы. И что вы думаете? Все легло под сукно в больших кабинетах высокого начальства. Никому он, туризм, к сожалению, не нужен. В правительстве нет ни одного истинного специалиста в области туризма (им руководят чиновники от спорта). Вот и доруководились.

**Николай ЧИРСКИЙ,**
**председатель общественного объединения "Белорусская ассоциация экскурсоводов и гидов-переводчиков".**
**Фото photo.bymedia.net**

ЗАДУМАЕМСЯ...

# А что потом?

*Когда-то один молодой человек с нешутейными амбициями беседовал с местным христианином, известным своей верой и набожностью. Юноша поспешил обрадовать его, сообщив, что собирается учиться на юриста. Христианин спросил: — "А что потом?" Будущий юрист ответил: "Так это... юристом стану!" "А что потом?" — опять спросил собеседник. "Ну, много денег у меня будет, дом большой, карета, лошади, жена-красавица, короче, все что надо!" — объяснил молодой честолюбец.*

*Но христианин опять задал тот же вопрос: "А что потом?" "Потом..." — и его собеседник впервые в жизни всерьез задумался о смерти и вечности. Он понял, что во всех его планах не было места Богу и вечному, потому что там был только он сам и только временное, земное.*

*Дело не в том, учит Библия, что нельзя быть богатым. Но если богатство становится конечной целью, человек не думает о вечности, его богом становятся деньги. А Христос в свое время сказал своим ученикам: "Любить и деньги, и Бога невозможно" (Мф. 65.24).*

К чему это я веду? А к тому, что сегодня вокруг нас не так уж мало людей, подобных тому честолюбивому юноше, кто на первое место в жизненных планах ставит, говоря по-современному, "баксы", хорошую машину, дачу за городом, собственный компьютер, а если отдых, то не ближе чем на Кипре, в Турции, Греции.

А теперь перенесемся на мгновение к ушедшему в прошлое дню 3 июля, когда отмечалось 60-летие освобождения Беларуси от немецко-фашистских захватчиков и День независимости. К вечеру на главной улице Слуцка, напротив Дворца культуры и прилегающих к нему лужайках, на берегах ручья Бычок собралось около двух тысяч горожан — в основном молодежи. Редко где можно было заметить седую голову ветерана войны или труда. Из мощных колонок, установленных по обе стороны импровизированной сцены на подходах ко Дворцу культуры, гремела оглушающая музыка, на сцену выходили молодые вокалисты. Исполняли в основном российскую эстрадную попсу, изредка разбавленную парочкой белорусских песен. Из-за "музыкального" грохота, шума-гама людской толпы, принявшей уже порядком "на грудь" пива и спиртных напитков, певцов почти не было слышно.

Позже, когда на город упали ночные сумерки и на многочисленных вертелах жарились шашлыки, были раскупорены новые бутылки спиртного... Дым от сотен сигарет в руках молодых девушек на подпитии стоял погуще, чем от тех шашлычных жаровень. Вся эта сгрудившаяся вокруг Дворца людская масса, похоже, забывшая начисто, по какому поводу весь этот сбор, напоминала что-то ярморочное, где не было места для мыслей о высоком: о цене и цели жизни, ради защиты которой отдавали свои жизни миллионы тогдашних сверстников сегодняшних молодых.

Знакомый мне молодой мужчина с дружком посреди тротуара раскупорили бутылку водки (хотя уже и так были в приличном подпитии) и, увидев меня, предложили выпить за компанию. Я отказался, заметив, что уже слишком поздно да и нет желания. Они не обиделись и стали разливать жидкость в бумажные стаканчики. А немного дальше несколько молодых, расхристанных, как на футбольном матче, юношей выясняли отношения с помощью отборного русского мата со всевозможными "переливами". Тот же мат, не менее изощренный, доносился из уст сидевших вблизи вокруг уставленного бутылками столика парней и девушек... Вспоминалось высказывание российского писателя Олега Ларина о том, что "русский мат — явление планетарное", что он "накрепко вошел в речь даже народов Средней Азии и Кавказа", не говоря уже о Беларуси, куда он проник вскоре после раздела Речи Пасполитой и присоединения нашего края к России. Писатель на полном серьезе утверждает, что "великие стройки коммунизма плюс Ассуанская плотина были построены в сопровождении русского мата". Тут, как говорится, ни убавить, ни прибавить — все верно.

...Только где-то в одиннадцать вечера, после яркого праздничного фейерверка (оплаченного, кстати, местными предпринимателями), озарившего букетами разноцветных огней центр города, порядком захмелевшая публика стала расходиться...

А ведь пьют круто в Беларуси не только в такие громкие праздники. Сколько их, судя по настольному календарю, профессиональных и иных, когда возникает "законный" повод напиться, порой до одурения. Это уже стало нашей национальной привычкой — не хуже, чем в соседней России, где пьянством охвачены миллионы людей.

...На следующий день было воскресенье, я пошел утром в Косма-Дамиановскую церковь и увидел в молитвенном зале трех подростков лет по 16—17, столько же девочек их возраста, четырех седовласых пенсионеров да с полсотни пожилых женщин, в основном постоянных прихожан храма. Из той двухтысячной массы пирующих вокруг Дворца культуры здесь были единицы — видимо, те кто не упускает из виду неотступный вопрос "А что потом?". Кто запомнил сказанные Христом две тысячи лет назад слова: "Не собирайте себе сокровища на земле, но собирайте себе сокровища на небе".

**Алесь ВОЛАТ.**

*г.Слуцк.*

## «Халяўнае» падключэнне

За незаконнае падключэнне кліентаў да Інтэрнета 42-гадовы жыхар Брэста Вячаслаў Мядзведзеў асуджаны на 5 гадоў пазбаўлення волі.

Як паведамілі БелаПАН у судзе Ленінскага раёна абласнога цэнтра, брэстаўчанін працаваў галоўным інжынерам унітарнага прадпрыемства "Элпрам" і меў права атрымліваць ад кліентаў плату за тэлекамунікацыйныя паслугі.

З 1 жніўня 2002 года па 24 жніўня 2003 года Мядзведзеў падключаў да Інтэрнета без рэгістрацыі і прысвойваў плату, памер якой быў менш устаноўленага яго правайдэрскай фірмай.

Пасля скаргаў карыстальнікаў на маруднае злучэнне і немагчымасць дазваніцца з-за перагружанасці вузла, на прадпрыемстве была праведзена праверка, у выніку якой выявілася вялікая колькасць незарэгістраваных кліентаў.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

## Злодзеі на скрыжаванні вуліц

Дзёрзкае і даволі недарэчнае злачынства здарылася ў Віцебску. На скрыжаванні шматлюдных вуліц Воінаў-інтэрнацыяналістаў і Чкалава нехта ўкраў... два святлафоры.

Гэтыя сігнальныя дарожныя прыборы новай мадэлі былі даволі дарагія, страты ад крадзяжу складаюць каля двух мільёнаў рублёў.

Супрацоўнікі ДАІ здзіўляюцца, не знаходзячы слушных матываў злачынства і схіляюцца да думкі, што крадзеж хутчэй за ўсё выкліканы хуліганскімі намерамі невядомых асоб. Каштоўных металаў у святлафорах няма, выкарыстаць прыборы ў хатняй гаспадарцы або на лецішчы немагчыма.

На шчасце, нягледзячы на звычайна інтэнсіўны транспартны рух на абрабаваным перакрыжаванні вуліц, крадзеж не прывёў да аварый з машынамі або наездаў на пешаходаў, бо навюткія святлафоры яшчэ не былі падключаны.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

*Чарга жадаючых паўдзельнічаць у здымках папулярнай перадачы "Народный артист" тэлеканала "Россия", якія прайшлі ў Мінску 19 і 20 жніўня.*

**Фото photo.bymedia.net**

ФЕЛЬЕТОН

# «Ягусёвачка» на разліў

Баба Яга прызямлілася акурат каля магазіна і, пакінуўшы ступу з памялом на падворку, пачэпала ў памяшканне. Там, акрамя прадаўшчыцы Нюркі, нікога не было. Абапершыся на прылавак, яна драмала.

— Гэта ты, старая, а я думала хлеб прывезлі, так нешта стукнула на двары, — прамовіла незадаволена.

— Ой, і не кажы, мая ступа так грукаціць, нібы малатарня. Усё прашу Кашчэя Бессмяротнага, каб адрамантаваў. Можа, на наступным тыдні выберацца, а то цяпер вельмі заняты: да юбілею рыхтуецца, гасцей склікае з навакольных лясоў.

— Да юбілею? — ажывілася Нюрка. — А колькі ж яму гадоў?

— Трыста. Ды што яму тыя гады! Ён жа бессмяротны.

— І шмат каго запрасіў на юбілей? — пацікавілася Нюрка.

— Ой, шмат: і Лесавіка, і Вадзянога, і Салаўя-Разбойніка. Русалка павінна быць. Гэта каго я ведаю.

— Баба Яга, скажы Кашчэю, што ў мяне да святочнага стала вельмі добры напой ёсць.

— Нябось віно пладова-ягаднае ці настойка "Паляўнічая" з мясцовага вінзавода. Што ў цябе такое асаблівае можа быць?

— Ёсць і віно, і настойка, але ёсць і нешта такое, аб чым ты нават не здагадваешся. Гэтаму напою яшчэ назву трэба прыдумаць.

— Няўжо? — абрадавалася Яга. — Дык давай назавём як-небудзь паэтычна, рамантычна...

— Можа, "Кашчэйная-юбілейная"? Гучыць, праўда?

— Няпраўда! — пакрыўдзілася Яга. — Я хачу, каб гэта назва нейкім чынам была звязана са мной, інакш не буду рэкламаваць твой напой, які ў народзе самагонкай завецца. Думаеш, я не ведаю, які напой ты прадаеш разам з вінамі? Сваю самагонку!

— Ціха ты, старая! — зашыкала на яе Нюрка. — Яшчэ хто міліцыі падкажа пра мой падпольны бізнес. Бяды тады не абярэшся.

Потым падумала і дадала:

— Добра, давай ужо будзем называць так, як ты хочаш.

— Ну, напрыклад, настойка "Ягусін зуб" або "Чароўная ступа", а лепш за ўсё проста і лірычна — "Ягусёвачка".

— Няхай будзе "Ягусёвачка", — згадзілася Нюрка.

— А як ты прадаеш, оптам ці ў розніцу? Ці, можа, на разліў?

— А хто як пажадае.

— То я куплю ў цяпе пару літраў і падару Кашчэю на юбілей. Можа, дабрэйшым будзе, ступу мне хутчэй адрамантуе.

Назаўтра Баба Яга зрабіла яшчэ два рэйсы па заказе Кашчэя, бо сам ён ісці ў магазін баяўся. Ведаў, што за набыццё самагонкі можа заплаціць штаф. А Язе што: паднялася на ступе ў паветра — ніякая міліцыя не дастане.

Гасцям "Ягусёвачка" спадабалася. І ўсё было б добра, калі б Салавей-Разбойнік не перабраў меру. Ён так часта прыкладваўся да чаркі, што страціў розум і ўсялякую пільнасць.

— Думаеш, не ведаю, чым ты нас поіш?! — грымеў ён на ўвесь лес. — Самагонкай, якую твая даўняя сяброўка Яга купіла ў вясковай краме!

На гэтым Салавей-Разбойнік не супакоіўся. Ён паляцеў у раённую міліцыю і насвістаў на Нюрку. Вядома ж, п'яны.

Міліцыянеры без прамаруджвання прыехалі ў магазін і пад прылаўкам знайшлі "Ягусёвачку". Цёпленькая была, толькі што з апарата.

Праз некаторы час Кашчэй папрасіў Ягу завезці ў магазін пустую тару, што засталася пасля гулянкі. На адрамантаванай і аднаўленай ступе Баба Яга прызямлілася акурат непадалёку ад ганка. Нават не вылазячы са свайго лятальнага апарата, убачыла на дзвярах запіску. "Паехала ў райцэнтр у суд, — пісала Нюрка няроўным размашыстым почыркам. — А ты, Яга, калі яшчэ хоць раз з'явішся ў магазіне, то я табе касцяную нагу паламаю. Ведаю, што ўсё гэта — твая работа і тваіх сабутэльнікаў. Вясковы люд піў і ніколі мяне міліцыі не здаваў. Так што асцерагайся!"

Яга ўзялася за памяло і неўзабаве яе ступа замільгала высока над дрэвамі. Яна ўзяла кірунак да суседняй вёскі, дзе таксама быў магазін і прымалі пустую тару. Там і даведалася ад людзей, што суд прыпаяў Нюрцы вялікі штаф, і цяжка ўздыхнула: шкада "Ягусёвачкі". Пякучая была, як крапіва, што расце ля хаткі на курыных ножках.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

Народная Воля 21 ЖНІЎНЯ 2004 г.

АЛІМПІЯДА-2004

# Ёсць першае золата! І ордэн...

*Следам за прадстаўніцамі зборнай Беларусі па цяжкай атлетыцы Ганнай Бацюшка і Тацянай Стукалавай, якія заваявалі сярэбраны і бронзавы медалі Алімпіяды-2004, беларускія спартсмены заваявалі золата. У вагавай катэгорыі да 100 кілаграмаў беларускі дзюдаіст Ігар Макараў, выйграўшы ў фінале ў прадстаўніка Паўднёвай Карэі Янг Сунг Хо.*

Тут жа на перамогу нашага дзюдаіста адрэагаваў Аляксандр Лукашэнка. Ён падпісаў указ аб узнагароджанні Макарава ордэнам "За асабістую мужнасць". Акрамя таго, Ігару Макараву будуць уручаны ключы ад новай кватэры, у любым выбраным самім спартсменам месцы краіны. Нагадаем, што за алімпійскае золата беларускім спартсменам усталявана ўзнагарода ў памеры 60.000 долараў ЗША, за серабро — 30.000, а за бронзу — 20.000. Такім чынам, за два дні беларускія спартсмены зарабілі 110.000 долараў.

Віншаванне Ігару Макараву таксама даслаў старшыня Гомельскага аблвыканкама Аляксандр Якабсон. Родныя павіншавалі Ігара праз Інтэрнет.

Літаральна за некалькі хвілін да падпісання нумара ў друк стала вядома, што скарбонка беларускай зборнай папоўнілася яшчэ адной узнагародай. Бронзавы медаль заваяваў прадстаўнік беларускай зборнай па кулявой стральбе 36-гадовы мінчанін Сяргей Мартынаў.




**Табліца медальных дасягненняў пасля шасці поўных дзён:**

| | З | С | Б |
|---|---|---|---|
| 1. ЗША | 14 | 11 | 10 |
| 2. Кітай | 14 | 9 | 6 |
| 3. Японія | 9 | 4 | 2 |
| 4. Аўстралія | 7 | 5 | 8 |
| 5. Італія | 5 | 5 | 3 |
| 6. Украіна | 5 | 1 | 1 |
| 7. Францыя | 4 | 3 | 4 |
| 8. Германія | 4 | 2 | 7 |
| 9. Расія | 3 | 8 | 10 |
| 10. Турцыя | 3 | - | 1 |
| 11. Паўднёвая Карэя | 2 | 6 | 3 |
| 12. Галандыя | 2 | 5 | 4 |
| 13. Венгрыя | 2 | 3 | 1 |
| 14. Румынія | 2 | - | 2 |
| 15. Грэцыя | 2 | - | 1 |
| 16. Польшча | 1 | 2 | 1 |
| 17. Славакія | 1 | 2 | 1 |
| **18. Беларусь** | **1** | **1** | **1** |
| 19. Грузія | 1 | 1 | - |
| 20. ПАР | 1 | 1 | - |
| 21. Балгарыя | 1 | - | 2 |
| 22. Тайланд | 1 | - | 2 |
| 23. Швейцарыя | 1 | - | 1 |
| 24. ААЭ | 1 | - | - |
| 25. Вялікабрытанія | - | 3 | 4 |
| 26. Аўстрыя | - | 3 | - |
| 27. КНДР | - | 2 | 1 |
| 28. Іспанія | - | 2 | - |
| 29. Куба | - | 1 | 5 |
| 30. Чэхія | - | 1 | 1 |
| 31. Зімбабве | - | 1 | 1 |
| 32. Партугалія | - | 1 | - |
| 33. Сербія и Чарнагорыя | - | 1 | - |
| 34. Інданезія | - | 1 | - |
| 35. Індыя | - | 1 | - |
| 36. Казахстан | - | 1 | - |
| 37. Бразілія | - | - | 2 |
| 38. Бельгія | - | - | 2 |
| 39. Азербайджан | - | - | 2 |
| 40. Канада | - | - | 1 |
| 41. Манголія | - | - | 1 |
| 42. Аргенціна | - | - | 1 |
| 43. Калумбія | - | - | 1 |
| 44. Славенія | - | - | 1 |
| 45. Данія | - | - | 1 |
| 46. Харватыя | - | - | 1 |
| 47. Ізраіль | - | - | 1 |
| 48. Данія | - | - | 1 |
| 49. Трынідад и Табага | - | - | 1 |

## Усё яшчэ наперадзе?



Выступленне астатніх беларускіх спартсменаў на Алімпіядзе пакуль не радуе.

Плыўчыха Алена Попчанка парадавала нас выхадам у фінал, але, на жаль, заняла ў ім апошняе восьмае месца ў заплыве на 100 метраў вольным стылем — яна паказала вынік 55,24 секунды.

Іншыя беларускія плыўцы таксама паказалі не самыя лепшыя вынікі. Павел Лагун заняў 26-е месца ў кваліфікацыйным заплыве на 100 метраў батэрфляем, яго вынік 53,87 секунды. А Станіслаў Невяроўскі стаў 33-м у кваліфікацыі на дыстанцыі 50 метраў вольным стылем. Яго вынік — 23,13 секунды.

Баксёр Магамед Арыпгаджыеў у вагавай катэгорыі да 81 кг выйшаў у чвэрцьфінал, атрымаўшы перамогу над Эдгарам Муньёсам з Венесуэлы — 18:10.

У парусным спорце (клас "Еўропа") Таццяна Драздоўская палепшыла свой вынік і пасля 8 з 11 гонак займае 17-е месца сярод 25 удзельніц.

У акадэмічным веславанні беларуская чацвёрка парная (Андрэй Пляшкоў, Павел Шурмей, Станіслаў Шчэрбачэня, Валерый Радзевіч) выйшла ў фінал, заняўшы апошняе, трэцяе, кваліфікацыйнае месца ў сваім заездзе, перамогшы эстонскі экіпаж з апярэджваннем на 0,2 секунды (5 хвілін 44,7 секунды супраць 5.44,9).

Завяршыў выступленне беларускі лучнік Антон Прылепаў (на здымку), які ўпершыню прабіўся ў 1/8 фіналу гэтых спаборніцтваў. На гэтай стадыі ён саступіў К'юн Мо Паку з Паўднёвай Карэі — 166:173.

У стральбе з вінтоўкі па рухомай мішэні Андрэй Казак і Андрэй Васільеў не трапілі ў фінал. Першы заняў 9-е месца (575 ачкоў), другі — 13-е (569). Спартсмен, які замкнуў фінальную шасцёрку, набраў 578 ачкоў.

## Сустрэчы ў беларускім доме

*Як раней паведамляла "Народная воля", у Афінах быў адкрыты беларускі дом. Першымі яго гасцямі сталі сярэбраная і бронзавая прызёркі Алімпіяды-2004 Ганна Бацюшка і Таццяна Стукалава.*

Спартсменкі атрымалі сертыфікаты НАК Беларусі. Акрамя гэтага, спартсменкі і трэнерскі склад зборнай Беларусі па цяжкай атлетыцы атрымалі кветкі ад намесніка шэфа алімпійскай місіі Галіны Забур'янавай.

Дарэчы, Ганна Бацюшка заначыла што "Алімпіяда мала чым адрозніваецца ад іншых спаборніцтваў, але ажыятаж вакол гульняў нельга параўнаць ні з чым".

Дарэчы, сёння ў беларускім доме запланаваны прыём для прэзідэнтаў і генеральных сакратароў алімпійскіх камітэтаў і міністраў спорту краін СНД.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

## У Полацку збяруцца эколагі

Старажытны Полацк зноў рыхтуецца да прыёму гасцей. Тут адбылося пасяджэнне аргкамітэта па падрыхтоўцы правядзення ў горадзе першага Міжнароднага экалагічнага фестывалю, які намечаны на 10—12 верасня.

10 верасня ў рамках фестывалю пачнецца Міжнародны экалагічны сімпозіум на тэму "Экалагічныя праблемы прыродна-тэхнічных комплексаў". Няцяжка здагадацца, што гаворка пойдзе, між іншым, і аб магчымым будаўніцтве на Заходняй Дзвіне каскада гідраэлектрастанцый, што непакоіць прыродаахоўныя арганізацыі Латвіі, Літвы ды іншых краін Усходняй Еўропы. З гэтага пункту гледжання зразумела, чаму месцам правядзення форуму абраны Полацк і чаму ў дыскусіі аб непажаданых наступствах будаўніцтва прыродна-тэхнічных комплексаў вырашылі ўзяць удзел больш за 200 навукоўцаў з Беларусі, Расіі, краін Прыбалтыкі, Польшчы і Германіі.

Адным з арганізатараў сімпозіуму выступае Полацкі дзяржаўны універсітэт.

## Маскалёнак — прозвішча пераможнае

Трэці сезон запар першым чэмпіёнам па збожжавых намалотах у Віцебскай вобласці стаў экіпаж камбайна з сельгаскааператыва "Таргуны" Докшыцкага раёна ў складзе Мікалая Антонавіча Маскалёнка і Аляксандра Сяргеевіча Гушчыка.

Гэты дуэт механізатараў першым у раёне і ў вобласці пераадолеў рубеж у тысячу тон зерня.

Цікава, што наступным экіпажам на Віцебшчыне, які неўзабаве дасягнуў гэткага ж выніку, сталі двое механізатараў з тых самых "Таргуноў" у складзе другога Мікалая Маскалёнка (толькі не Антонавіча, а Аляксеевіча) і ягонага сына Аляксандра.

Такім чынам, самыя высокія здабыткі на сёлетнім хлебным жніве ў Віцебскай вобласці звязаны з прозвішчам Маскалёнак. Гэтак жа было і летась, і пазалетась. На "Дажынках-2002" Мікалай Антонавіч Маскалёнак з докшыцкіх "Таргуноў" быў узнагароджаны легкавой аўтамашынай, а праз год — камп'ютэрам і грашовай прэміяй.

Мяркуючы па ўсім, і на сёлетніх "Дажынках" Мікалаю Антонавічу наканавана атрымаць заслужаны прыз як лепшаму камбайнеру Докшыцкага раёна і ўсёй Віцебшчыны.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Дапаможам!

Паважаная рэдакцыя! Я, Каралёў Алесь, сацыял-дэмакрат з 1991 года, зараз член БСДГ (НГ), кіраўнік Жодзінскай суполкі, хачу праз Вашу паважаную газету звярнуцца да ўсіх, хто сябе лічыць дэмакратам, і асабліва да сацыял-дэмакратаў.

Сёння, калі востра стаіць пытанне аб уборцы хлеба, неабходна прыняць самы актыўны ўдзел у дапамозе сялянам. Сярод нас ёсць людзі ў адпачынку, непрацуючыя функцыянеры, якія могуць унесці сваю лепту ў гэтую вялікую справу.

Хлеб застаецца адзіным нашым багаццем. Будзем сыты — будзем рабіць сваю справу па дэмакратызацыі, але сёння ўборка хлеба — найвышэйшая справа, потым будуць выбары! Ведаю, што такіх поглядаў прытрымліваецца большасць дэмакратаў. Вялікі Вам усім дзякуй!

**З павагай —**

**А.КАРАЛЁЎ, жыхар г.Жодзіна.**

## Вучыцеся ў Януковіча!

Проста зайздрасць бярэ, калі бачыш, як Януковіч, выхадзец з Беларусі, які жыве ва Украіне, размаўляе з насельніцтвам (выбаршчыкамі) на чыстай украінскай мове. Спадзяюся, што ён усім сэрцам палюбіў гэты народ і будзе рабіць усё магчымае для паляпшэння жыцця людзей.

А вось для нашых дэпутатаў Папова, Кабякова, Малафеева, Канаплёва, Касцяна, Хрола — гэтых "іншаземцаў" — беларуская мова зусім не цікавая, яны выступаюць на мове суседняй краіны. Пра што можна з імі размаўляць, чаго можна ад іх чакаць?!

**Выбаршчык.**

*г.Мінск.*

ХОРОШАЯ НОВОСТЬ

## Анжелика Агурбаш родила сына

Случилось это 19 августа в половине шестого утра в одном из московских роддомов. Мальчик настоящий богатырь — весит 4200, рост — 54 сантиметра.

При родах присутствовал муж Анжелики, российский бизнесмен, президент фирмы "Мортадель" **Николай Агурбаш**. По словам близких певицы, в последние несколько дней Николай Георгиевич от жены никуда не отходил, а возле их дома круглосуточно дежурила машина: дом семьи Агурбаш находится в Подмосковье, а рожать надо было ехать в Москву.

Стоит отметить, что пару месяцев назад Николай Агурбаш стал дедушкой. Его дочь Татьяна, которая замужем за известным композитором **Виктором Чайкой**, также родила сына. Случилось это аккурат в день 50-летия супруга белорусской певицы.

А Лика родила сына в день столетия деда Агурбаша, грека по происхождению. Не исключено, что своего сына Николай и Анжелика назовут в его честь — Иссидор.

Напомним, что Анжелике Агурбаш 34 года. Теперь она — мать троих детей. Старшей дочери певицы Дарье 16 лет, сыну Никите — 8.

**Марина КОКТЫШ.**

## Сустракаюць Маёравых з радасцю, праводзяць — з падзякай

З удзячнасцю развітаўся жыхар вёскі Ліпкі Вусценскага сельсавета Аршанскага раёна Хведар Чахлоў з камбайнерам Віктарам Маёравым і яго сынам Андрэем, якія разам, адным сямейным экіпажам, абслугоўваюць старэнькі, даўно варты спісання камбайн СК-5 "Ніва", што добра здатны якраз на дробных прыватных лапіках.

Механізаваны атрад па аказанні дапамогі насельніцтву ў правядзенні сезонных работ створаны паводле рашэння выканкама Вусценскага сельсавета паўтара года таму і знаходзіцца на выканкамаўскім балансе, бо зусім невялікай платы, якая бярэцца з сялян за апрацоўку іх сотак, не хапае на пакрыццё выдаткаў, што патрабуюць паліва і запчасткі.

Атрад пад кіраўніцтвам ваеннага пенсіянера, жыхара вёскі Малінаўка Віктара Маёрава, прызнаны лепшым у раёне. Летась, да прыкладу, Віктар Карнеевіч разам з сынам Андрэем убраў 142 гектары прыватных збожжавых палеткаў.

І сёлета механізатары Маёравы, давёўшы ў вольны час да ладу зношаную "Ніву", старанна выконваюць заяўкі вяскоўцаў з 22 населеных пунктаў сельсавета.

Ліпкі, Селішча, Наваселле, Малінаўка, Тарчылава, Яромкавічы... Паўсюдна бацьку і сына Маёравых сустракаюць з радасцю і праводзяць з падзякай.

А калі пачнецца ўборка бульбы, Маёравы перасядуць на іншыя машыны і зноў не застануцца ў баку ад надзённых вясковых клопатаў сваіх землякоў.

На жаль, далёка не ў кожным сельсавеце Віцебшчыны ў сельскіх жыхароў ёсць такія працавітыя і сумленныя памочнікі.

А шкада, бо падобныя грамадскія механізаваныя фарміраванні патрэбны сельскім жыхарам, асабліва пенсіянерам і нямоглым, з якіх, уласна кажучы, і складаецца цяпер насельніцтва вясковай Беларусі.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

### Понедельник, 23 августа

**БТ**

**07.00, 08.00, 09.00, 12,00, 15.00, 18.00, 23.00** Новости.
**07.05 "Люди и дельфины".** Сериал.
**08.25** "Пьедестал".
**08.35, 00.30** "Дневник Олимпиады".
**09.10** "В центре внимания".
**10.40 "Прощай, вторая лига".** Комедия.
**11.05** "Путешествие дилетанта".
**11.30** "36,6".
**12.10** "Чемпионы. Натик Багиров".
**12.25 "Барханов и его телохранитель".** Комедия.
**14.20** "Ваше лото". Телеклуб.
**15.15** "5 чудес".
**15.25** "Созвездие надежд".
**16.05** "Шпилька".
**16.30, 18.30, 22.15** Олимпийские игры в Афинах. Прямая трансляция.
**17.35** "Судьба человека".
**21.45** "Панорама".
**22.40 "Богатые и знаменитые".** Сериал.
**23.35 "Спрут".** Сериал.

**ОНТ**

**07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 18.00, 20.30, 22.45** "Наши новости".
**07.05** "Наше утро".
**09.05** "Контуры".
**09.55 "102 далматинца".** Комедия.
**15.30 "Следствие ведут Знатоки".** Сериал.
**16.15 "Женщины в любви".** Сериал.
**17.05** "Слабое звено".
**18.10** "Дом". Реалити-шоу.
**19.05 "Клон".** Сериал.
**20.00** "Время".
**21.00** "Выбор". Ток-шоу.
**21.45 "Улицы разбитых фонарей".** Сериал.
**23.00 "Дневник Олимпиады".**
**23.10** "Спецрасследование".

**РОССИЯ**

**07.45 "На гребне волны".** Боевик.
**09.50, 18.45** "Вести. Дежурная часть".
**10.00, 16.00, 19.00** "Вести.
**10.30, 19.30, 22.00** "Местное время. Вести — Москва".
**10.50** "Что хочет женщина".
**11.50** "Комната смеха".
**16.20** "Честный детектив".
**16.50 "Бедная Настя".** Сериал.
**17.50 "Комиссар Рекс".** Сериал.
**19.50** "Спокойной ночи, малыши!"
**19.55 "Каменская-2".** Сериал.
**21.05 "Марш Турецкого-3".** Сериал.
**22.20 "Погоня".** Боевик.

**ЛАД**

**06.30** EURONEWS.
**08.00, 15.00, 20.00** Новости.
**08.10** "Провинциальные истории".
**08.35** "Дома грез". Док.фильм.
**09.30** "Наше наследие".
**09.45** "Телебарометр".
**10.00** "Дневник Олимпиады".
**10.20 "Багряная трава".** Комедийная кинoновелла.
**10.50** "Ералаш".
**11.00, 18.05** "Между нами, женщинами".
**11.20 "Неисправимый".** Комедия.
**13.00** Олимпийские игры в Афинах. Прямая трансляция.
**15.10, 16.55** "Не зевай!"
**15.50 "Казаки-разбойники".** Приключенческий фильм.
**17.05 "Нежный возраст".** Сериал.
**17.35** "В поисках гармонии".
**18.25 "А+Поллюкс".** Мелодрама.
**20.15** "Колыбельная".
**20.30** "Дела семейные".
**21.15 "Роман императора".** Сериал.
**22.30 "Долгое жаркое лето".** Детектив.

**НТВ**

**09.00, 11.00, 16.00, 18.00** "Сегодня".
**09.25** "Женский взгляд".
**09.55** "Путешествие натуралиста".
**10.30** "Страна советов".
**14.35** "Принцип домино". Ток-шоу.
**16.30 "МУР есть МУР".** Сериал.
**17.35** "Криминальная Россия".
**18.40 "Родина ждет".** Сериал.
**19.50 "Я все решу сама".** Сериал.
**21.00** "Страна и мир".
**21.45 "Скрытая угроза".** Триллер.

**СТВ+RenTV**

**06.40** "Близнецы судьбы". Мультсериал.
**07.35, 23.10** "Технология".
**07.45** "Личный интерес".
**08.25 "Вкус убийства".** Сериал.
**09.15** "Минск и минчане".
**09.25** "Рыцари света". Мультфильм.
**10.15 "Я ничего не знаю, но все расскажу".** Комедия.
**11.40** "Из достоверных источников".
**12.00** "Час суда".
**12.45** "Привидения в кадре". Док.фильм.
**13.30, 16.30, 19.30, 22.45** "24 часа".
**13.50, 18.30 "Любовь императора".** Сериал.
**14.45 "ОБЖ, или Обледенелый прыжок". "ОБЖ, или Обменяться возможностями".** Сериал.
**15.35** "Маска". Мультсериал.
**16.00** "Арт-экспресс".
**16.15** "Дом, который построю я".
**16.50** "Игровой рефлекс".
**17.00 "Веселая компания".** Сериал.
**17.50** "Минщина. Люди, события, факты".
**18.00** ""Созвездие "Динамо". Видеофильм.
**20.00** "СТВ-спорт".
**20.25** "Добрый вечер, малыш".
**20.40** "Кадровый вопрос".
**20.55 "Большое ограбление банка".** Триллер.
**23.20** "Столичный футбол".
**23.50** "Новости СНГ".
**00.05 "Доктор Джекилл и мистер Хайд".** Драма.
**02.05** "Большая музыка".

**8-Й КАНАЛ**

**07.00, 16.45 "Шерлок Холмс и доктор Ватсон".** Сериал.
**08.10, 17.50** "Телемагазин".
**08.15** "Классика Уолта Диснея".
**09.15** "К-игра".
**09.20** "Сокровища". Док.сериал.
**09.40, 19.50 "Любовники пустыни".** Сериал.
**10.25** "К-видео" — "Топ-8".
**10.30, 21.10 "Большие надежды".** Драма.
**16.30** "Мультпарад" от "Бюргера".
**18.00 "Дядя Ваня".** Драма.
**19.45** "Мобилизация".
**20.45** "Вечарніца".
**21.00** "Атомик Филмз" и "К-видео" представляют...

**ТВ ЦЕНТР**

**04.45, 06.30** "Настроение".
**07.35 "Убийство в доме Викария".** Детектив.
**09.25** "Первые среди равных".
**09.40** "Телемагазин".
**10.00, 13.00, 17.00, 21.00** "События. Время московское".
**10.15** "Дата".
**11.00** "Момент истины".
**12.10** "Опасная зона".
**12.25** "Деловая Москва".
**13.15 "Инспектор Кресс".** Сериал.
**14.20** "Войди в свой дом".
**14.30** "Православная энциклопедия".
**15.00** "Регионы: прямая речь".
**15.30** "Казенный дом". Док.фильм.
**16.00 "Комиссар Мулен".** Детектив.
**17.15** "Магия".
**18.00 "Страсти по Саломее".** Сериал.
**18.50** "Пять минут деловой Москвы".
**18.55 "Сладкая женщина".** Мелодрама.
**20.40** "Северный припас".
**21.45** "Особая папка".
**22.25** "Времечко".
**22.55** "Петровка, 38".
**23.15** "25-й час. События. Время московское".
**23.35** "Только для мужчин".
**00.05** "Современная пьеса с актерами-любителями".

**EUROSPORT**

04.00, 06.00, 10.00, 18.30 Легкая атлетика.
**04.30, 16.30** Велоспорт.
**05.30, 15.00** Прыжки в воду с трамплина.
**07.00, 07.45** Новости к завтраку.
**07.30, 08.15, 01.00** "Цель — Афины".
**08.30** Гребля на байдарках и каноэ.
**12.45, 18.15** Новости Олимпиады.
**13.00** Настольный теннис.
**22.15** Тяжелая атлетика.
**00.00** Олимпик-экстра.
**01.15** Бокс.
**02.15** Спортивная гимнастика.
**03.30** Тяжелая атлетика.

### Вторник, 24 августа

**БТ**

**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00** Новости.
**07.05 "Люди и дельфины".** Сериал.
**08.35, 00.20** "Дневник Олимпиады".
**09.10, 00.45 "Спрут".** Сериал.
**10.05** "Наследие, застывшее в камне". Док.сериал.
**11.00, 23.30 "Богатые и знаменитые".** Сериал.
**11.50, 16.25** "Пьедестал".
**12.10** "Специальный репортаж".
**12.25 "Консьерж".** Комедия.
**14.05** "Кстати".
**14.30** "Новая коллекция" Олега Лукашевича".
**15.20 "Пограничный пес Алый".** Приключенческий фильм.
**16.30, 19.30, 21.30** Олимпийские игры в Афинах. Прямая трансляция.
**21.00** "Панорама".

**ОНТ**

**07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 18.00, 20.30, 23.10** "Наши новости".
**07.05** "Наше утро".
**09.05, 19.05 "Клон".** Сериал.
**09.55, 18.10** "Дом". Реалити-шоу.
**10.45** "Дисней-клуб".
**15.15 "Следствие ведут Знатоки".** Сериал.
**16.10 "Женщины в любви".** Сериал.
**17.05** "Слабое звено".
**20.00** "Время".
**21.00 "Черный ворон".** Сериал.
**22.00 "Улицы разбитых фонарей".** Сериал.
**23.00** "Дневник Олимпиады".
**23.25** "Не только о футболе".
**23.50** "Русский экстрим".

**РОССИЯ**

**07.45, 16.50 "Бедная Настя".** Сериал.
**08.45, 19.55 "Каменская-2".** Сериал.
**09.50, 18.50** "Вести. Дежурная часть".
**10.00, 16.00, 19.00** "Вести".
**10.30, 19.30, 22.00** "Местное время. Вести — Москва".
**10.50** "Что хочет женщина".
**11.50, 21.05 "Марш Турецкого-3".** Сериал.
**16.20** "Кулагин и партнеры".
**17.50 "Комиссар Рекс".** Сериал.
**19.50** "Спокойной ночи, малыши!"
**22.20 "Мечтая об Аргентине".** Худ.фильм.

**ЛАД**

**06.30** EURONEWS.
**08.00, 14.00, 20.00** Новости.
**08.10** "Есть только миг...".
**08.35, 22.15 "Долгое жаркое лето".** Сериал.
**09.30** "Пой, душа!"
**10.00** "Дневник Олимпиады".
**10.20, 21.15 "Роман императора".** Сериал.
**11.30** "Живые камни". Док.фильм.
**12.00** Олимпийские игры в Афинах.
**14.10** "Приключения в затерянном мире". Мультсериал.
**14.35** "Не зевай!".
**14.45** "Золотой мальчик". Мультфильм.
**15.05 "Нежный возраст".** Сериал.
**15.25** "Судьба животных". Док.сериал.
**16.20** "Ностальжи".
**16.45** "Из архивов БТ".
**18.20** "Между нами, женщинами". Тележурнал.
**18.40 "Подросток".** Драма.
**20.15** "Колыбельная".
**20.30** "Дела семейные".

**НТВ**

**09.00, 11.00, 16.00, 18.00** "Сегодня".
**09.25** "Их нравы" с Дмитрием Захаровым".
**10.20** "Страна советов".
**14.35** "Принцип домино".
**16.30 "МУР есть МУР".** Сериал.
**17.35** "Криминальная Россия".
**18.40 "Родина ждет".** Сериал.
**19.50 "Я все решу сама".** Сериал.
**21.00** "Страна и мир".
**21.45 "Настоящее преступление".** Триллер.

**СТВ+RenTV**

**06.25, 17.45** "Минщина. Люди, события, факты".
**06.35** "Близнецы судьбы". Мультсериал.
**07.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.45** "24 часа".
**07.50, 20.00** "СТВ-спорт".
**08.15, 23.25** "Технология".
**08.25** "Столичный футбол".
**08.55** "Добро пожаловаться".
**09.10** "Рыцари света". Мультфильм.
**09.35 "Большое ограбление банка".** Триллер.
**11.10** "Дикая планета".
**12.00** "Час суда".
**12.45** "Летающие легенды".
**13.00** "Пока горит свеча".
**13.50, 18.30** "Любовь императора". Сериал.
**14.45 "ОБЖ, или Опасное бездорожье". "ОБЖ, или Обжалованию не подлежит".** Сериал.
**15.35** "Маска". Мультсериал.
**16.00** "Телеафиша".
**16.15** "Кадровый вопрос".
**16.50** "Турпоход".
**17.00 "Веселая компания".** Сериал.
**18.00** Ко Дню Независимости Украины. "Мы". Видеофильм.
**20.10** "Тема дня".
**20.20** "Добрый вечер, малыш".
**20.35** "Закон и криминал".
**20.55 "Суперворы".** Боевик.
**23.10** "Горячий лед".
**23.35** "Игровой рефлекс".
**23.45 "Секретные материалы".** Сериал.
**00.30** "Новости СНГ".

**8-Й КАНАЛ**

**07.00, 16.45 "Шерлок Холмс и доктор Ватсон".** Сериал.
**08.10, 09.20, 17.50, 21.00** "Телемагазин".
**08.15** "Анастасия". Мультфильм.
**09.30** "Медитация".
**09.40, 19.50 "Горец".** Сериал.
**10.30, 21.10 "Кабаре".** Мюзикл.
**16.30** "Мультпарад" от "Бюргера".
**18.00 "Мой ласковый и нежный зверь".** Драма.
**19.45** "Атомик Филмз" и "К-видео" представляют...
**20.40** "К-видео" — "Топ-8".
**20.45** "Вечарніца".

**ТВ ЦЕНТР**

**05.00, 06.30** "Настроение".
**07.35** "Газетный дождь".
**07.45 "Сладкая женщина".** Мелодрама.
**09.30** Мультфильм.
**09.40** "Телемагазин".
**10.00, 13.00, 17.00. 21.00** "События. Время московское".
**10.15** "Дата".
**11.05 "Станционный смотритель".** Драма.
**12.25** "Деловая Москва".
**13.15 "Инспектор Кресс".** Сериал.
**14.30** "Я — мама".
**15.00** "Регионы: прямая речь".
**15.30** "Командоры, вперед!".
**16.10** "Умный нашелся...". Ток-шоу.
**17.15** "Очевидное-невероятное".
**18.00 "Таковы эти женщины".** Сериал.
**18.50** "Пять минут деловой Москвы".
**18.55 "Элла и ее матери".** Драма.
**21.40** "Отдел "Х".
**22.30** "Времечко".
**23.00** "Петровка, 38".
**23.20** "25-й час. События. Время московское".
**23.40** "Супердиск".
**00.00 "Возвращение домой".** Мелодрама.

**EUROSPORT**

**04.00, 01.15** Тяжелая атлетика.
**05.00** Бокс.
**06.00, 13.45, 19.45, 03.30,** Легкая атлетика.
**07.00, 07.45** Новости к завтраку.
**07.30, 08.15, 01.00** "Цель — Афины".
**08.30, 09.15, 11.00** Гребля на байдарках и каноэ.
**12.00** Прыжки в воду с трамплина.
**13.30, 19.30** Новости Олимпиады.
**14.30** Гандбол.
**16.00** Волейбол.
**16.30** Велоспорт.
**00.00** Олимпик-экстра.
**02.15** Конный спорт.
**02.45** Пляжный волейбол.



БЛІЗКАЯ ГІСТОРЫЯ

## Чужы сярод сваіх

**Конкурс для школьнікаў працягваецца!**

**Апошні тэрмін адсылкі конкурснай працы — 25 лістапада 2004 г.**
**Вы яшчэ можаце паспець узяць удзел і перамагчы!**
**Пераможцаў чакаюць прызы!**

У конкурсе могуць браць удзел вучні сярэдніх навучальных установ (пачынаючы з 7-га класа): школ, ліцэяў, гімназій, а таксама навучэнцы каледжаў, ПТВ, тэхнікумаў (да 19 год).

Форма конкурснай працы адвольная: сачыненне, інтэрв'ю, фільм і іншае. Калі праца нятэкставая (аўдыё-, відэа-, фотаздымкі), да яе павінна быць далучана пісьмовая частка, якая адлюстроўвае працэс даследавання альбо заключае каментарый да крыніцаў.

Працу пажадана пісаць на беларускай мове, яе можна выконваць індывідуальна альбо групай, самастойна альбо з дапамогай куратара.

Да працы абавязкова павінна быць далучана анкета ўдзельніка з прозвішчам, імем удзельніка, яго каардынатамі і назвай працы, а таксама з прозвішчам, імем і каардынатамі кіраўніка (пры яго наяўнасці).

Працу трэба дасылаць у адным асобніку па 25 лістапада 2004 г. (дата вызначаецца па паштовым штэмпелі) на адрас: "Блізкая гісторыя", а/с 128, 220064, Мінск.

Вынікі конкурсу будуць абвешчаныя 25 сакавіка 2005 г.

Усю патрэбную інфармацыю, парады і брашуру, у якой падрабязна выкладзены ўмовы конкурсу, можна атрымаць ад сакратара конкурсу Ірыны Коваль (па тэл.: **(8-017) 223-61-42, 8-029-613-60-87, па эл. пошце: historyja@belinter.net, па пошце: "Блізкая гісторыя", а/с 128, 220064, г. Мінск).**

Жадаем поспехаў!

